Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 3000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ -БАРАНАВІЧЫ -БЯРОЗА

10—16 кастрычніка 1998 года
№ 67 (147)
Наш індэкс 63834

ІВАЦЭВІЧЫ

## Падрыхтоўка да перапісу насельніцтва на новым этапе

Наша газета пісала ўжо аб тым, што ў пачатку будучага года адбудзецца перапіс насельніцтва. Падрыхтоўка да яго ўступіла ў новы этап. Згодна з планам, зацверджаным Івацэвіцкім райвыканкамам, у раёне ствараецца пяць перапісных аддзелаў, 45 інструктарскіх і 235 падліковых участкаў.

Для правядзення перапісу ў раёне спатрэбіцца 285 работнікаў. Аплату працы абяцаюць.

## З газам жарты небяспечныя

Гэтую простую ісціну засвоілі ўжо многія ўладальнікі газавых прыбораў і ўстановак. І невыпадкова. Бо яшчэ не выветрыліся з памяці тыя выпадкі, якія прывялі да трагедый: узрываліся балоны з газам, гінулі людзі.

З мэтай папярэджання няшчасных выпадкаў і навядзення парадку ў тых дамах, дзе ёсць газавыя пліты, што падключаны да балонаў, Івацэвіцкае раённае вытворчае ўпраўленне газавай гаспадаркі і праводзіць інвентарызацыю газабалонных установак. Дробныя непаладкі будуць ліквідаваны адразу на месцы сіламі брыгад па дастаўцы балонаў са звадкаваным газам. Калі газабалонныя ўстаноўкі не будуць адпавядаць правілам бяспекі, то дастаўка газу такім абанентам спыняецца. Пры неабходнасці перамантажу газабалонных установак трэба звяртацца ў райгаз да майстра па перамантажу і перарэгістрацыі.

Быць і далей з газам хоча кожны гаспадар. Таму прывесці свае газабалонныя ўстаноўкі ў адпаведнасць з правіламі бяспекі — неадкладны абавязак кожнага.

## Хто дапаможа буслу?

У раёне чыгуначнага маста ля ракі Шчара павольна ходзіць крыху кульгаючы бусел. Такі самотны і безабаронны.

Чаму ён апынуўся ў такой сітуацыі? Чаму ён адстаў ад сваіх суродзічаў, якія даўно адправіліся ў цёплыя мясціны? Магчыма, пашкоджана крыло, магчыма, нага.

Восень бусел яшчэ вытрымае. А што будзе потым, калі настануць маразы? Няўжо юннаты з бліжэйшых школ не прытуляць птушку, не вылечаць яе? Няўжо людзі пакінуць сябра на волю лёсу?

## Пакроўскія кірмашы

Заўтра — нядзеля, 11 кастрычніка. У Івацэвічах, Косаве, Целяханах і Быцені пройдуць пакроўскія кірмашы. На іх у шырокім асартыменце будуць прадстаўлены гародніна, садавіна, збожжа, мясапрадукты, разнастайныя харчовыя і прамысловыя тавары, кандытарскія вырабы, якія прывязуць гандлёва-рознічныя прадпрыемствы, калгасы і саўгасы раёна.

Пачатак кірмашоў а 8-й гадзіне.

У Івацэвічах адначасова святкуюцца Дажынкі і Дзень горада. У праграме: ушанаванне перадавікоў сёлетняга жніва, выступленні ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, выставы, конкурсы. У святкаваннях возьмуць удзел гандлёвыя арганізацыі і дэлегацыі раёнаў-суседзяў.

НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ЕКАТЕРИНА. По гороскопу — Рак. Люблю слушать современную музыку. Мои кумиры — Валерий Меладзе и Арнольд Шварценеггер. Нравится отдыхать на природе с родными, близкими и друзьями. Не представляю свою жизнь без книг. Я — человек весёлый и жизнерадостный, на всё стараюсь смотреть с юмором.*

## Не можа быць! Можа

Муж і жонка Б. з Івацэвічаў знаходзіліся гэтым летам у расійскай глыбінцы — горадзе Ніжнякамску. Там адправілі на свой беларускі адрас пасылку з вопраткай. На двары гаспадарыў чэрвень, усюды квітнела і буяла.

Мінула лета, настала восень. Пасылкі не было. Сям'я Б. махнула ўжо рукой: згубілася, пэўна, у дарозе. Напрыканцы верасня ў дом мужа і жонкі Б. завітала паштальёнка і ўручыла паведамленне на атрыманне пасылкі. Той, што самі адправілі з Ніжнякамска.

Хоць праз тры месяцы, а ўсё ж дабралася пасылка да месца прызначэння.

БЯРОЗА

## Лавіся, рыбка!

Восеньская пуціна распачалася ў рыбгасе "Селец". Адлоў вырашчанай рыбы вядуць брыгады Анатоля Стэфановіча і Віктара Ніпаркі. Штодзённа спецмашыны з надпісам "Жывая рыба" накіроўваюцца ў Бярозу, Белаазёрск, Івацэвічы, Брэст, Мінск, дастаўляючы ў гэтыя гарады сваю прадукцыю — карпа, шчупака, карася, белага амура, таўсталобіка. Рыбгас плануе сёлетняй восенню паставіць у гандлёвую сетку больш за 300 тон свежай рыбы.

## Пушкі да бою?

У лесе пад Бярозай выяўлена вялікая партыя боепрыпасаў да авіяцыйных пушак. У тайніку знаходзіліся дзве скрынкі боепрыпасаў (па 18 снарадаў у кожным), якія выкарыстоўваюцца для паражэння бранятэхнікі і жывой сілы. Якім чынам снарады, што падлягаюць строгаму ўліку, апынуліся ў лясным масіве, — на гэтае пытанне цяпер шукаюць адказу следчыя. Разгадка, магчыма, у тым, што побач размешчана авіяцыйная часць.

## След сатаністаў

Чорным днём ахрысцілі жыхары вёскі Нівы той дзень, калі яны пабачылі, што на мясцовых могілках разбураны тры помнікі, яшчэ з некалькіх сарваны крыжы.

Арганізатараў акту вандалізму міліцыя выкрыла. Імі аказаліся двое 16-гадовых і яшчэ адзін падлетак, на год маладзейшы за іх. Крымінальныя сябрукі — жыхары горада Белаазёрска. Аператыўнікі лічаць, што непаўналетнія вандалы належаць да сатаністаў. Пацвярджае гэтую версію той факт, што на сценах кватэры аднаго з іх процьма намаляваных знакаў з атрыбутыкі сатанінскага руху.

БАРАНАВІЧЫ

## Паляванне на галубоў

Пакуль паляўнічыя палююць на дзікіх качак, двое сябрукоў (23 і 17 гадоў) атакавалі галубятню ў адным з двароў горада. Спачатку яны пабілі гаспадара птушак, а потым забралі 10 галубоў, ацэненых пацярпелым у 15 мільёнаў рублёў.

Злодзеі затрыманы. Галубы вернуты гаспадару.

## Улицы—автостоянки

С 1 октября с. г. увеличилась плата за парковку автомашин на некоторых улицах Барановичей с 10 до 20 тысяч рублей. Факт подорожания, видимо, связан с инфляцией. Потому как участки улиц, где исполком решил взымать деньги за стоянку транспорта, никаких изменений не претерпели. Машины никто не охраняет. Просто контролеры, очень "зубастые" мужики, не пропуская ни одного авто, подходят и предупреждают, что парковка платная.

Водитель сам решает, раскошелиться ли ему, чтобы поставить автомобиль в удобном месте (торговая площадь по ул. Советской, ул. Гагарина в этом же районе, центральный рынок) или поискать бесплатный переулок.

Люди привыкли платить порой ни за что. И за платную парковку вначале чуть ли не дрались. Теперь безропотно отдают деньги. И все же многие сетуют: даже поверхностного наблюдения за оставленной автомашиной не организованно.

А горбюджет питается и этой маленькой денежной струйкой. И несколько человек — контролеров на жизнь зарабатывают.

# В квартире холодно у нас. А у вас?

*Поистине тема недели — отопление. Где только не услышишь разговоры о нем. Холодный антициклон, обрушившийся на нашу многострадальную Беларусь, сменил тему экономического кризиса, тему цен на тему погодного кризиса.*

*Упорные слухи ходят о том, что в ряде школ сокращаются уроки, а в детских садах дети и вовсе спят одевшись. По крайней мере, так было в начале недели. А какова погода в вашем доме?*

*С таким вопросом во вторник, 6 октября, мы обратились к жителям г. Ивацевичи.*



**Николай Андреевич:** У меня дома тепло. Печку натоплю — и "пофиг" мне всякие приказы руководства. Да и чарка может неплохо согреть.



**Фаина Порфирьевна:** Утром в квартире так холодно, что не хочется из-под одеяла вылазить. Пар изо рта идет. Как в бане (смеётся).



**Виталик, ученик СШ № 4:** У нас в школе — по-среднему. Хоть и одеваюсь потеплее. На переменах набегаешься — и вроде тепло.

*Отопление включили. Да вот нарекания посыпались со всех сторон. А тем временем самая главная "печка" — солнце, словно вспомнив об обязанностях своих, пригрело. Синоптики говорят о потеплении.*

*Может, солнце лучше справится со своими обязанностями, чем коммунальники со своими.*



*Інфармацыйны выпуск "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: С. КАЖАДУБ, А. ГОРБАЧ (Івацэвічы), А. ЛАЎРАНЮК (Бяроза), П. НАГНІБЕДА, М. КУЛІКОВА (Баранавічы) і фотакарэспандэнт А. ГАНЧУК.*

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Асенняя сесія

*2 кастрычніка ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь у Мінску адкрылася пятая сесія Савета Рэспублікі і пятая сесія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі.*

Савету Рэспублікі на чарговай сесіі парламенту належыць адобрыць каля 40 праектаў законаў і кодэксаў, 5 прэзідэнцкіх дэкрэтаў, 9 міжнародных дагавораў і пагадненняў.

На разгляд дэпутатаў Нацыянальнага сходу ў першым і другім чытанні выносяцца 82 законапраекты. Яшчэ чатыры пункты ўключаны па ініцыятыве асобных парламентарыяў.

## Нават "Форд" спыніўся

*Канвеер завода беларуска-амерыканскага СП "Форд-Юніон", што пад Мінскам, прастойвае ўжо амаль месяц.*

Спыненне працы асноўных вытворчых магутнасцяў завода напраму звязана з фінансавым крызісам у Расіі. Цяжкасці, у прыватнасці, узніклі ва ўзаемаадносінах СП з расійскімі дылерамі, якія, не маючы магчымасці для набыцця валюты, не ў стане разлічвацца за аўтамабілі. З-за прастою вытворчасці частка рабочых завода "Форд-Юніон" была накіравана ў бліжэйшы калгас, дзе на працягу двух тыдняў аказвала дапамогу ва ўборцы бульбы. Зараз рабочыя аказваюць дапамогу ва ўборцы ўраджаю ў садзе па вырошчванні лекавых траў і раслін. Астатнюю частку работнікаў кіраўніцтва спрабуе неяк заняць непасрэдна на самім заводзе: у працоўны час яны ўдасканальваюць свае веды па розных напрамках і вывучаюць англійскую мову.

## Падтрымка беларускім палітзняволеным

*Праваабаронца Алена Бонэр, удава Андрэя Сахарава, выказала падтрымку беларускім палітзняволеным — дэпутатам Уладзіміру Кудзінаву і Андрэю Клімаву, а таксама маладафронтаўцу Аляксею Шыдлоўскаму, накіраваўшы ліст Хартыі'97.*

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры Хартыі, у лісце, у прыватнасці, Алена Бонэр адзначае, што "парушэнне правоў чалавека ў Беларусі выклікае глыбокую занепакоенасць, прымушае ўспомніць горкі вопыт мінулых гадоў". Расійская праваабаронца выказвае спадзяванне, што беларускія палітзняволеныя будуць вызвалены з турмаў дзякуючы салідарным дзеянням няўрадавых арганізацый, у тым ліку і Хартыі'97.

## Дэмакраты збіраюць Кангрэс

*Беларуская апазіцыя рыхтуе правядзенне Кангрэса дэмакратычных сілаў.*

У Кангрэсе возьмуць удзел дэлегаты ад палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў, прафсаюзаў, а таксама пісьменнікі, мастакі, навукоўцы. Аргкамітэт па правядзенні Кангрэса ўзначальвае Генадзь Карпенка. Канкрэтная дата мерапрыемства пакуль не вызначана. Па словах Г. Карпенкі, хутчэй за ўсё кангрэс пройдзе ўзімку.

## Іншамарку можна прадаць

*Для гаспадароў замежных аўтамабіляў ёсць прыемная навіна. Пастановай Савета Міністраў часова дазволены продаж аўтамабіляў, на якія накладзена забарона мытні на адчужэнне на працягу двух гадоў.*

Як вядома, дагэтуль быў такі парадак, што на аўтамабілі, увезеныя ў Беларусь і растаможаныя па льготным тарыфе (0,3 ЭКЮ за кубічны сантыметр аб'му рухавіка), накладалася забарона на адчужэнне. Іншымі словамі, на працягу двух гадоў уладальнік увезенага аўтамабіля не меў права яго прадаць, дарыць, закладваць, перадаваць па даверанасці (акрамя блізкіх родных). Калі ж гаспадар жадаў прадаць аўтамабіль, яму неабходна было заплаціць дзяржаве вялікую мытную пошліну, якая часам перавышала кошт самой машыны.

Новая пастанова Саўміна ўжо ўступіла ў сілу, яна распаўсюджваецца як на аўтамабілі, увезеныя раней, так і на тыя, што падлягаюць рэгістрацыі.

## Чыноўніка затрымалі за 5 тысяч долараў хабару

*Чыноўнік з апарата Савета Міністраў Мікалай Аляксееў затрыманы супрацоўнікамі КДБ Беларусі пры атрыманні хабару ў памеры 5 тысяч долараў. М. Аляксееў працаваў ва ўпраўленні прамысловасці Савета Міністраў і курыраваў працу нафтаперапрацоўчага комплексу.*

Праваахоўныя органы даўно зацікавіліся крыніцамі даходаў Мікалая Аляксеева. Адной з прычынаў гэтай цікаўнасці было тое, што М. Аляксееў набыў новую іншамарку, хоць зарплату меў адносна невысокую.

Пакуль невядома, хто і за якія паслугі прапанаваў чыноўніку пяць тысяч долараў.

*(БелаПАН).*

ИЗ ИСТОРИИ УНИАТСКОЙ ЦЕРКВИ

# Мученический путь развития

**(Продолжение. Начало в №№ 62, 65, 66).**

## В годы смертельной опасности

В 1648 г. на Украине начинается казачье восстание под руководством гетмана Богдана Хмельницкого. Казаков поддерживала не только Москва, но и Турция. При помощи турок Хмельницкий одерживает победы над войском Речи Посполитой.

Казачеством было объявлено, что они борются за чистоту веры, против Унии. Из-за этого мученической смерти были преданы сотни униатских священников и монахов.

В 1649 г. между Речью Посполитой и казаками Б. Хмельницкого было установлено перемирие, одним из условий которого являлось полное насильственное уничтожение Унии. Униатский митрополит с духовенством обращаются с жалобой на насилие в Рим. Оттуда стараются повлиять на короля Речи Посполитой в защиту Унии. Но воля его остаётся непреклонной.

Если бы народ действительно обращён был в униатство силою (эту версию и теперь вбивают в головы), то он только того и ждал, чтобы вернуться обратно в православие и судьбу Унии можно было бы считать обреченной. **Народ встал на защиту своего духовенства и своих храмов.** Широкая волна народного негодования против насилия над Церковью прокатывается по всей Речи Посполитой и в 1651 г. народное ополчение наносит казакам Б. Хмельницкого сокрушительное поражение под Берестечком. Это поражение вынуждает Хмельницкого заключить Белоцерковный мир, в котором казаки даже не упоминают об Унии.

В 1654 г. Хмельницкий обращается за помощью к Москве. Посылаются войска в Великое Княжество Литовское. Началась 13-я русско-польская война. Казаки Хмельницкого доходят до Львова. Вновь по всему княжеству Литовскому льётся кровь униатов. Духовенство и монахов ждут на кострах, морят голодом. Но за эти смутные времена не происходит отречения от Церковного Единства.

В 1667 г. Речь Посполитая заключила с Москвою Андрушевский мир. Москве отошли Смоленск, Левобережная Украина вместе с Киевом. Речь Посполитая вернула себе Полоцк, Витебск и Мстиславль. Отныне казаки уже не могли быть угрозой для Унии. Их зависимость от Москвы, которая постаралась урезать их вольности, была довольно не сладкой.



Для Унии наступают спокойные времена. В границах Речи Посполитой оставались лишь три православных епископства: Перемышльское, Львовское и Луцкое. Все три в разное время принимают Унию. **Победа Унии становится полной.**

В это время Киев утрачивает своё значение столицы поместной церкви и с согласия Константинопольского патриарха переходит в полное подчинение Московского патриарха. Киевский православный митрополит становится царским слугою. Незавидной была и участь казачества: часть из них копала каналы над Волгой, часть ушла в Турцию на службу султану. Последний казачий гетман отсидел в одиночной камере Соловецкого монастыря 25 лет. Так "отблагодарила" Москва казаков.

## Противостояние давлению светских властей России

Речь Посполитую сотрясают междуусобицы. Война со Швецией заставила короля пойти на тесный союз с Москвой. Пётр I со своими войсками вступает в Полоцк. У Софийского собора его торжественно встречают монахи. Увидев образ св. Иософата, царь поинтересовался: "Кто это?" Ответили, что это образ мученика за святую веру. Петр I своей рукой зарубил священника и велел солдатам казнить всех полоцких монахов. Русский самодержец пытал лично игумена. Отрезал последнему уши, выколол глаза. Но тот не отрекся от веры. Монастырь и церкви были разграблены.

Петр I потом говорил, что сделал это будучи пьяным. Но является ли это оправданием для царя, которого называют Великим? Расправы над униатами продолжались. Спрашивается, как мог себе позволить московский царь вмешиваться не в свои дела в чужом государстве, в которое он вступил не как враг, а как союзник?

Кровь, пролитая в Полоцке от рук Петра I, только усилила в униатах ревность о своей вере.

Упразднивший одним словом московскую патриархию и полностью подчинивший Русскую Православную Церковь своей неограниченной власти, Петр I претендует быть опекуном над теми немногими православными, которые ещё сохранились в Речи Посполитой. Он требует от короля согласия на то, чтобы из Москвы присылались епископы. Король иногда шел на уступки.

После смерти Петра I императрица Елизавета продолжает ту же политику. Русские самодержцы смотрели на церковь, как на личную собственность. Ослабленная многочисленными войнами с Русской империей, Турцией, Швецией, Австрией, Речь Посполитая не может дать Санкт-Петербургу достойного отпора. А с приходом на престол ставленника Екатерины II Понятовского наступают для Унии страшные времена. Чего только стоили гайдамаки во главе с Железняком, натравленные самой царицей **"резать всех униатов, ляхов и жидов"**. С отрядами гайдамаков отправлялись присланные из Москвы православные священники. Сёла и местечки вырезались поголовно с женщинами, детьми. Было уничтожено свыше 200.000 мирного населения Речи Посполитой.

Когда гайдамаки грязно исполнили волю императрицы, она назвала их разбойниками и приказала своим войскам выступить против них. Многие из гайдамаков были казнены.

***По материалам печати подготовила Н. ЧИКИТА.***

*(Окончание будет).*

РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

# ...Пакурыць



Я і не ведаў, чаму так змрочна стаў паглядаць і ўвогуле нервавацца мой сусед і сябра Віктар. Прычына аказалася і вельмі нават банальнай: з продажу зніклі танныя айчынныя цыгарэты "Астра" і "Прыма".

— "Стральнуць" цыгарэту сёння амаль немагчыма, — кажа ён, — усе на "падсосе" ды пагладаюць, каб у іншага каго "стральнуць". Але як маглі цыгарэты так нечакана знікнуць? Былі ж у кожным магазіне.

Казаць катэгарычна, што сёння беларускіх цыгарэт у продажы няма, было б усё ж такі несправядліва. Як толькі зніклі такія звычайныя і родныя для сярэдняга курыльшчыка "Астра" і "Прыма", тут жа з'явілася "Астра-люкс". Дарэчы, дызайн і афармленне пачкі нічым істотна не адрозніваюцца ад проста "Астры". Вось толькі кошт яе... 29.500 рублёў за пачку. Міжволі станеш нервавацца і змрочна пагладаць. Дарэчы, прадаўцы магазінаў "Чабарок", "Спадарожнік", "Рамонак" дружна сцвярджаюць, што асаблівым попытам "Астра-люкс" не карыстаецца. А вось такія айчынныя цыгарэты, як "Мінск" "Арбіта", "Пушча" поўнасцю зніклі і нават не ўспамінаюцца.

Амерыканскія ж цыгарэты ёсць у продажы і ў Івацэвіцкіх магазінах і асабліва ў камерцыйных крамах. Але сёння самыя танныя з іх — "Саюз-Апалон" і "Магна" — каштуюць 45.000 рублёў. Кошт пачкі "Мальбара" перавалiў за 100.000 рублёў за пачак.

Пацікавіўся ў бабулек, цётак, якія звычайна "тусуюцца" ля ўваходу на рынак. Яны разгублена разводзяць рукамі: айчынных цыгарэт няма, ёсць "L&M". Але гэтыя цыгарэты ніяк нельга аднесці да тавара, які можа набыць звычайны спажывец. Відаць, бабулькі штосьці недапрацоўваюць.

Хоць з вёсак сям-там даходзяць чуткі, што прадаюць "Астру" і "Прыму" з рук. Кошт вагаецца ў дыяпазоне 15.000—20.000 рублёў за пачак. У тых жа вёсках, дарэчы, дружна пайшоў у ход тытунь, пра які сёй-той курыльшчык і запаматаваў.

А што ў нашых суседзяў? На карэспандэнцкім пункце г. Бярозы нам паведамілі, што сітуацыя з цыгарэтамі ў гэтым горадзе таксама крытычная. Ва ўсю пайшоў гандаль курывам з-пад крыса. У магазінах таксама толькі "Астра-люкс". А вось у Баранавічах "Астры" і "Прымы" вельмі шмат. Яна паўсюдна маецца ў продажы ў камерцыйных крамах. Кошт 12.000— [illegible].000 за пачак. У магазінах Баранавіч сітуацыя з цыгарэтамі такая ж, як і ў Івацэвічах. Гайда, курцы, у Баранавічы!

*А. ГОРБАЧ.*

## 10 снежня — 50 гадоў Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека

● ЗАПРАШАЕМ ДА РАЗМОВЫ



# Права на жыццё, свабоду...

**10 снежня 1948 года Генеральная асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацый абвясціла Усеагульную Дэкларацыю правоў чалавека. Пад гэтым дакументам стаіць подпіс і прадстаўніка беларускага ўрада. Такім чынам, Беларусь поўнасцю прызнала Дэкларацыю. Яна складаецца з прэамбулы і 30 артыкулаў, выкладзеных у вельмі сціслай форме.**

**Якія ж пытанні ўнесены ў Дэкларацыю? Можна смела сказаць, што ўсе асноўныя, якія тычацца правоў і свабод грамадзян.**

**"Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзелены розумам і сумленнем і павінны адносіцца адзін да аднаго ў духу брацтва" — гаворыцца ўжо ў першым артыкуле Дэкларацыі.**

**"Кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і ўсімі свабодамі, абвешчанымі гэтай Дэкларацыяй, без якога б то ні было адрознення, напрыклад, у адносінах расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных ці іншых перакананняў, нацыянальнага ці сацыяльнага паходжання, маёмаснага, саслоўнага ці іншага становішча. Акрамя таго, не павінна праводзіцца ніякіх адрозненняў на аснове палітычнага, прававога ці міжнароднага статуса краіны ці тэрыторыі, да якой чалавек належыць, незалежна ад таго, ці з'яўляецца гэтая тэрыторыя незалежнай падапечнай, якая сама не кіруема ці як-небудзь інакш абмежаванай у сваім суверэнітэце" (артыкул 2-гі Дэкларацыі).**

**Права на жыццё, на свабоду, на асабістую недатыкальнасць, на грамадзянства, на свабоду думкі, сумлення і рэлігіі, на адукацыю, на сацыяльнае забеспячэнне, на працу, на абарону закона, на атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі... Гэты пералік правоў кожнага чалавека можна было б прадоўжыць.**

**Хочацца асобна падкрэсліць важнасць артыкула 25-га, дзе сказана, што "кожны чалавек мае права на такі жыццёвы ўзровень, уключаючы харчы, адзенне, жыллё, медыцынскі догляд і неабходнае абслугоўванне, якія неабходны для падтрымання здароўя і дабрабыту яго самога і яго сям'і..."**

**Такі кароткі пераказ зместу Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека. У год юбілею гэтага важнага міжнароднага дакумента наша газета запрашае да размовы сваіх чытачоў. Вельмі дарэчы вашы адносіны ўвогуле да Дэкларацыі і асабліва да таго, як выконваюцца яе артыкулы ў нас на Беларусі, як захоўваюцца правы і свабоды нашых грамадзян. Чакаем вашых пісьмаў.**

***Усе людзі роўныя перад законам і маюць права, без усялякага адрознення, на аднолькавую абарону закона.***

(Усеагульная Дэкларацыя правоў чалавека, з артыкула 7-га).

# І боль, і крыўда

Хутка міне паўтара года як не стала майго сына Мікалая, а мне ўсё здаецца, што стукнуць веснічкі і ён паявіцца на парозе з усмешкай на вуснах ці насуплены. І раскажа пра свае вучнёўскія радасці і клопаты. Час ідзе, а я ўсё цешу сябе нейкай надзеяй. Не верыцца, дый годзе.

Балюча ўспамінаць сапраўды чорныя дні ў сваім жыцці. Мікола закончыў дзевяць класаў Магіліцкай базавай школы і са сваімі сябрамі пайшоў сустракаць світанне на Чамялоўскае возера. Сюды ж у той вечар прыехалі на адпачынак і вучні з Івацэвічаў. Вядома, што чамялоўскія хлопцы хадзілі ў госці да гарадскіх школьнікаў. Частаваліся гарэлкай. Пасля той ночы ўсе вясковыя і гарадскія вучні вярнуліся дамоў, а майго сына не стала. Ніхто не ведаў, дзе ён падзеўся. Толькі на другі дзень пад вечар мой старэйшы сын Сяргей разам з чамялоўскімі хлопцамі знайшоў Міколу на рацэ Шчара. Ён сядзеў у чароце паблізу берага, па пояс у вадзе, галава зверху прыкрыта травой. Мікола быў мёртвы.

Пачалося расследаванне. Яго вяла Івацэвіцкая пракуратура і, у прыватнасці, следчы Кірыловіч. Дапрасілі ўсіх школьнікаў, што знаходзіліся тады на возеры. Іх паказанні былі вельмі блытанымі. А вось тых, хто знайшоў Міколу, нават не выклікалі ў пракуратуру. Пасля заключэння эксперта, што Мікола ўтапіўся, крымінальную справу ўзбуджаць не сталі.

Атрымалася неяк дзіўна: мой сын утапіўся, вылез з вады да берага, сеў у чароце, прыкрыўся зверху травой і стаў чакаць. Так бывае толькі ў казцы.

Тады я пайшла да следчага Кірыловіча паразмаўляць, але ён не стаў са мной гаварыць і папрасіў выйсці з кабінета. Я да пракурора Мішкова, а ён мне і кажа: "Я, жанчынка, нічога не ведаю". А сын жа Мішкова быў у той кампаніі, а ён, маўляў, нічога не ведае.

Я звярталася і ў Мінск, і ў Брэст. І ўсе паперы зноў вярталіся ў Івацэвічы да таго ж следчага. Для фармальнасці зноў выклікалі тых жа школьнікаў для паказанняў, а таксама ўжо майго сына Сяргея. Зноў мне прыслалі адпіску, што няма ніякіх падстаў узбуджаць крымінальную справу.

Так, у пракуратуры няма падстаў узбуджаць крымінальную справу. Чаму? Мо яна не была зацікаўлена ў гэтым? У той кампаніі івацэвіцкіх школьнікаў знаходзіліся дзеткі мясцовых начальнікаў і ў першую чаргу пракурора.

На маё перакананне, не ўсе роўныя перад законам. Ён на баку толькі тых, хто мае ўладу. Што ім да простых людзей, да калгаснікаў, вясковай жанчыны, сын якой, па іх сцвярджэнню, утапіўся.

І сёння яшчэ раз хачу падкрэсліць, што мой Мікола сам не ўтапіўся. Тыя, што з ім былі побач, гэта добра ведаюць. Няўжо гэтага не разумеюць у пракуратуры? Але ж, як ужо я сказала, не захацелі, як гэтага патрабуе закон, займацца расследаваннем, хоць зачапіцца было за што. Не знайшлося ў Івацэвічах законапаслухмяных і прынцыповых следчых. Чужое гора нікога з іх не кранула. Бог ім суддзя.

Боль і крыўда засталіся назаўсёды і ў мяне, і ў сям'і, і ў маіх родзічаў. Гэта, так сказаць, "дань павагі" хлебаробу, які сваёй працай корміць і малых, і вялікіх начальнікаў, і тых, хто, на маю думку, завалакіціў і закрыў справу аб гібелі майго сына.

Напярэдадні 50-годдзя з дня абвяшчэння Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека, якую падпісала і Беларусь, хацела б параіць работнікам Івацэвіцкай пракуратуры яшчэ не раз перачытаць гэты дакумент. Хто будзе ў сваёй дзейнасці кіравацца гэтай Дэкларацыяй, той, я цвёрда ўпэўнена, не дапусціць такіх памылак, як у справе з гібеллю майго сына Міколы Русака.

*Марыя Аляксандраўна РУСАК, жыхарка вёскі Чамялы Івацэвіцкага раёна.*

# Каму ж жыллё?

***Кожны чалавек мае права на такі жыццёвы ўзровень, уключаючы харч, адзенне, жыллё, медыцынскі догляд і неабходнае абслугоўванне, які неабходны для падтрымання здароўя і дабрабыту яго самога і яго сям'і...***

(Усеагульная Дэкларацыя правоў чалавека, з артыкула 25-га).



Вось у такім інтэрнаце ААТ "Івацэвічдрэў" жыве сям'я Сакутаў: сам гаспадар Анатоль Адамавіч, яго ная жонка і трое дзяцей. Пабудаваць сваё жыллё і раней, і тым больш цяпер пры міззэрных заробках было толькі светлай марай. Суседзі Сакутаў атрымалі кватэры, а гэтая сям'я па-ранейшаму туліцца ў паўразбураным бараку. Кіраўніцтва ААТ "Івацэвічдрэў" прапанавала гэтай сям'і перасяліцца ў інтэрнат, што размешчаны побач і які яшчэ пакуль што не разбіралі. Які сэнс зноў гібець у такім жа бараку!

Хто ж дапаможа Сакутам? Гэтае пытанне неаднаразова ўзнімалася самой сям'ёй у скаргах у розныя інстанцыі. Яна цвёрда пераканана ў тым, што дзяржава павінна паклапаціцца пра іх і забяспечыць жыллём. Але на пакуты сям'і ніхто не звяртае ўвагі.

А што ж закон? Маецца на ўвазе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, у якой запісана, што кожны грамадзянін нашай краіны мае права на жыллё і павінен быць ім забяспечаны. Запісана адно, а на справе зусім іншае. У каго, як у Івацэвічах, па некалькі кватэр і асабнякоў, у Сакутаў жа — няма нічога. Вось такое права на жыллё. І ніякай гарантыі, што яно калі-небудзь будзе. Мо і будзе. Толькі зноў — каму?

*Фота А. ГАНЧУКА.*

● ВО САДУ ЛИ, В ОГОРОДЕ

# Лунный календарь на октябрь

Посев, посадка любых культур — недопустимы: 20, 28—30у; нежелательны: 13—15.

Посев, посадка культур, поспевающих над поверхностью земли, — лучшие дни: 21, 22, 30в, 31; хорошие: 26, 27.

Посев, посадка культур, поспевающих в земле, — лучшие дни: 11, 12; хорошие: 18, 19.

Лук многолетний: батун, слизун, шнитт — подзимний посев и выгонка пера в теплицах и на подоконнике — лучшие дни: 21—27; хорошие: 11, 12.

Морковь — подзимний посев — лучшие дни: 11, 12, 18, 19; хорошие: 21, 22.

Редис — подзимний посев в открытый грунт и в отапливаемых теплицах — лучшие дни: 11, 12, 18, 19; хорошие: 23—27, 30в, 31.

Чеснок — посадка — лучшие дни: 11, 12; хорошие: 23—25.

Абрикос, вишня — посадка — лучшие дни: 26, 27; хорошие: 16, 17.

Груша, жимолость, слива — посадка — хорошие дни: 16, 17.

Ежевика — посадка — хорошие дни: 16, 17.

Крыжовник — посадка — лучшие дни: 26, 27.

Малина — посадка — лучшие дни: 21, 22, 30в, 31; хорошие: 11, 12.

Смородина черная — посадка — лучшие дни: 21, 22, 26, 27, 30в, 31; хорошие: 11, 12.

Яблоня — посадка — лучшие дни: 23—25.

Посадка плодовых деревьев недопустима (будет много пустоцвета): 20, 21.

Обрезка деревьев, манипулирование с кронами (особенно косточковых) — лучшие дни: 20—22; нежелательны: 10, 30, 31.

Прививка — хорошие дни: 21, 22; недопустима: 28—30у.

Сбор корнеплодов, за исключением картофеля, для длительного хранения — лучшие дни: 20; хорошие: 15; недопустим: 21, 22.

Сбор лекарственных растений: "корешки" — лучшие дни: 20; хорошие 17—19, 21—23.

Квашение, засолка, консервирование без термообработки — лучшие дни: 30в, 31; недопустимы: 20—22.

Варка варенья, консервирование с термообработкой — лучшие дни: 13—15, 28—30у; недопустимы: 20—22.

Осторожно с острыми инструментами (возможны травмы): 13-15, 23-25.



**ПРИМЕЧАНИЕ.** *В календаре приняты условные обозначения: буквой "у" рядом с цифрой дня обозначена первая половина суток с 0 до 12 часов, а буквой "в" — вторая половина суток с 12 до 24 часов.*

● СКВОЗЬ ТЕРНИИ — В РЫНОК

# Чашечка кофе с барановичской маркой

Гроза барановичских огородов и садов комбинат пищевых продуктов посягнул на кофейные плантации Бразилии, Колумбии и других стран, выращивающих этот душистый продукт. Его коллектив, преодолев огромные трудности с финансированием, построил цех по производству кофе. Технология, как и оборудование, конечно, импортные. Шеф-монтаж и пуско-наладочные работы вели немецкие специалисты. Они и обучали белорусов искусству управления сложнейшей техникой, оснащенной электроникой.

На днях выпущены первые десятки кофейного порошка. Немцы, получив сердечную благодарность, упаковали чемоданы. Барановичские пищевики теперь озабочены поиском кофе-зерна по всему миру. Правда, в случае серьезных срывов в обеспечении цеха сырьем, предусмотрен выпуск кофейного напитка по белорусским рецептам.

...Ждем бразильский кофе по-барановичски на прилавках магазинов. Может он не так качеством, как ценами потеснит кофе "Пеле", "Neskafe" и другие импортные порошки?

*П. НАГНИБЕДА.*

ЛЁС ЧАЛАВЕЧЫ

# "Ты сапраўдны баец, Юркевіч", — сказаў маршал Жукаў



А. А. Юркевіч на лаўцы ля сваёй хаты (фота 60-х гадоў).

***Гэтыя словы належаць вядомаму палкаводцу гадоў Вялікай Айчыннай вайны Маршалу Савецкага Саюза Георгію Канстанцінавічу Жукаву. Сказаў іх слаўны военачальнік пра простага салдата Аляксея Юркевіча, які жыве зараз у вёсцы Вулька-Целяханская Івацэвіцкага раёна. А справа была так.***

**1.**

Студзень 1944 года. Паступіў загад аб фарсіраванні Одэра. Хаця на календары была зіма, але рака яшчэ не замерзла. Каб пераправіць нават пехацінцаў, не хапала ні паромаў, ні лодак. Салдаты, найбольш кемлівыя, самі майстравалі для сябе плыты розных памераў. Кулямётчык Аляксей Юркевіч, знайшоўшы восем тоўстых дошак, вырашыў таксама зрабіць нешта плывучае.

— Дошкі папаліся шырокія і моцныя, — расказвае Аляксей Аляксеевіч Юркевіч. — І плыт з іх атрымаўся добры. На пярэдняй частцы паставіў станкавы кулямёт "Максім" і прывязаў дротам, а сам усеўся бліжэй да другога краю. Як толькі сцямнела, самаробным вяслом я адпіхнуўся ад берага і пачаў грабсці...

Як расказаў Аляксей Аляксеевіч, у тую зімовую ноч было даволі холадна, дзьмуў паўночны вецер, і ён зносіў плыт налева, павялічваючы адлегласць да берага. Грабсці станавілася ўсё цяжэй. Але і гэта была яшчэ не галоўная перашкода. Немцы заўважылі рух па рацэ і пачалі абстрэл. То ўперадзе, то ззаду, то па баках ірваліся снарады. У адзін з момантаў Аляксей з цяжкасцю ўтрымаўся на плыце. Снарад, што разарваўся паблізу, вадзяной хваляй ледзь не перакуліў яго транспарт. Шапку-вушанку збіла з галавы. Усяго абдало халоднай вадой, папала яна і за каўнер. Аднак гэта не астудзіла салдата. Чуючы небяспеку, Юркевіч усё хутчэй кіраваў свой "паром" да берага. Толькі адчуўшы, што плыт тыцнуўся ў бераг, Аляксей уздыхнуў з палёгкай. Хуценька збег на бераг.

"Буду жыць і далей змагацца, — сам пра сябе падумаў Юркевіч. — Калі адолеў раку, то на зямлі, можа, і лягчэй пойдзе..."

Думкі салдата перабіў мужчынскі голас:

— Хто тут яшчэ перабраўся?

— Кулямётчык Юркевіч, — па-ваеннаму адказаў Аляксей.

— А дзе ж твой транспарт? — дапытваўся той жа ваенны.

— А вось ён тут, з "Максімам".

Ваенны наблізіўся і глянуў на Аляксееў транспарт.

— Усё ў парадку ў цябе, салдат?

— Вось без галавы застаўся, таварыш камандзір, — адважыўся пажартаваць Юркевіч і зразумеў, што перад ім сапраўды камандзір, бо ў цемнаце разгледзеў папаху.

— Як без галавы? Параніла? — адразу перапытаў ваенны.

— Шапку з галавы вадой змыла, — ужо на поўным сур'ёзе адказаў Аляксей.

— Абы галава цэлая, — засмяяўся ваенны. — А шапка будзе.

Ён нечакана для Юркевіча абняў яго, моцна пацалаваў і сказаў на развітанне:

— Ты сапраўдны баец, Юркевіч. Да сустрэчы ў Берліне...

— А як жа вас знайсці? — не вытрымаў Аляксей.

— Спытаеш генерала Жукава, — ужо з цемры азваўся ваенны. — Табе пакажуць...

Вось такая нечаканая сустрэча Аляксея Юркевіча з вядомым у вайну і такім грозным для ворагаў Жукавым.

Кулямётчык Юркевіч ганарыўся гэтай сустрэчай і, вядома, марыў яшчэ раз спаткацца з Жукавым ужо ў Берліне. Гэтая сустрэча была такой блізкай. У самім варожым логаве ішла ўпартая барацьба за кожную вуліцу, за кожны дом. У вулічным баі, калі Аляксей са сваім "Максімам" перабягаў вуліцу, каб заняць зручную для стральбы пазіцыю, ля яго ног разарвалася граната, кінутая з акна дома, што насупраць. Акрываўлены, беспрытомны, ён праляжаў да вечара. Знайшлі Юркевіча паўжывога і адразу адправілі ў шпіталь. Гэта было 27 красавіка 1945 года. Да канца вайны заставалася два тыдні.

**2.**

У шпіталі (Юркевіча завезлі ў глыб Расіі, аж на Волгу) медыкі вялі ўпартую барацьбу за яго жыццё і здароўе. Правую руку і правую нагу прыйшлося ампутаваць. Левую нагу, пасечаную асколкамі, выратавалі. Аляксей, як дзіця, радаваўся і за адзіную нагу, на якую можна ступіць, і за жыццё, якое падаравалі яму медыкі. Сум і расчараванне прыйшлі ўжо потым, калі летам 1945 года медсястра са шпіталя прывезла яго, Юркевіча, дамоў, у Вульку-Целяханскую... Збегліся суседзі, плакала жонка Наталля, дочкі Марыя і Таня.

Знайшліся такія вяскоўцы, якія кпілі з Наталлі, нават падбухторвалі яе: "Кінь ты гэты абрубак, хіба ён ужо мужчына? Якая карысць з яго ў сям' і гаспадарцы?"

Заўпарцілася спярша Аляксеева жонка і нават падумала расстацца з мужам. Але ж ён такі бездапаможны, яшчэ зусім слабы пасля цяжкага ранення, і дзяўчаткі так хораша даглядаюць свайго татулю, што зашчыміла сэрца ў Наталлі: "Не, не пакіну яго. Так Бог, відаць, даў, каб мы былі ўсё жыццё разам".

Як жа склаўся далейшы лёс былога салдата, інваліда вайны І групы Аляксея Юркевіча?

Самае галоўнае — не распалася сям'я. Наталля нарадзіла яшчэ двое сыноў і дачку. Яшчэ раз пацвердзілася, што Аляксей не толькі сапраўдны баец, як сказаў маршал Жукаў, але і сапраўдны мужчына. Дарэмна вясковыя кабеты сумняваліся ў мужчынскай годнасці Юркевіча.



Аляксей Аляксеевіч з праўнучкай.

Што ж тычыцца Аляксея, як гаспадара, то, нягледзячы на сваю інваліднасць, ён як мог, стараўся і дапамагаў ва ўсім. Выпісаў і яму прыслалі дзве касы левабаковыя. Левай рукой браўся за дужку кассея, а верхам яго ўпіраўся ў кульбу правай рукі. Левую нагу адстаўляў убок, каб правая на дзеравяшцы мацней упіралася ў зямлю. Так і касіў. Спярша, вядома, не атрымлівалася, але потым налаўчыўся так, што мясцовыя дзецюкі толькі дзівіліся, раскрыўшы раты. Неймаверна цяжкай была такая праца. Дапамогі — ні адкуль, а дзеці — малыя. Таму прыходзілася самому і касіць, і дровы секчы, і многае іншае рабіць.

І зараз мала хто верыць, што Аляксей Аляксеевіч левай рукой прызвычаіўся і бульбу абіраць. Не напросішся кожны раз нявестку, што жыве побач у доме, зварыць бульбачкі. Бо ўжо каля дзесяці гадоў сам у хаце — Наталля яго памёрла. Дзеці раз'ехаліся па ўсім свеце. Толькі сын Павел пабудаваўся побач, каб дапамагаць бацьку. Але з Паўлам здарылася бяда — утапіўся. Засталася жонка з двума дзяцьмі. І нявестка, і ўнукава жонка дапамагаюць Аляксею Аляксеевічу, бо, шчыра кажучы, інвалід больш нікому і не патрэбны. Дзяржава плоціць зараз яму кожны месяц менш як два мільёны рублёў. Даведаўся неяк Юркевіч, што іншым інвалідам вайны даюць значна больш і вырашыў пісьмова звярнуцца ў органы сацыяльнай абароны насельніцтва па растлумачэнні. З Брэста адказалі, што, каб атрымліваць максімальную пенсію, патрэбна 45 гадоў працоўнага стажу. Вось такая насмешка над інвалідам!

Аляксей Аляксеевіч не паверыў адпісцы з Брэста і накіраваў сваё пісьмо Прэзідэнту нашай рэспублікі. З адміністрацыі кіраўніка дзяржавы пісьмо Юркевіча пераслалі ў той жа Брэст у абласное ўпраўленне сацыяльнай абароны насельніцтва. Намеснік начальніка ўпраўлення А. М. Каляда даслаў такі адказ інваліду (даём на мове арыгінала): **"На ваше заявление, поступившее из Администрации Президента РБ, сообщаю, что по действующему законодательству размер пенсии в основном зависит от величины индивидуального коэффициента заработка пенсионера. Поскольку в материалах Вашего пенсионерского дела отсутствует справка о заработной плате, пенсия выплачивается вам в минимальном размере и размер изменяется ее при увеличении минимума и доплаты к минимальным пенсиям.**

**В настоящее время пенсия по возрасту с учетом повышения на 175 процентов минимального размера пенсии по возрасту как инвалид войны I группы и надбавок на уход как пенсионеру, достигнувшему 80-летнего возраста, в размере 50 процентов минимального размера пенсии по возрасту Вам выплачивается в соответствии с действующим законодательством правильно и законных оснований для ее увеличения, к сожалению, не имеется".**

Здзіўляцца прыходзіцца і не болей, што чыноўнік з Брэста гаворыць пра нейкі працоўны стаж для інваліда. Без правых рукі і нагі А. А. Юркевіч пасля шпіталя 1945 года не мог працаваць ні ў калгасе, ні на вытворчасці па прычыне сваёй фізічнай нямогласці. Няўжо так цяжка гэта зразумець і тым, хто сядзіць у кабінетах, і тым, хто прымае пенсійныя законы? Відаць, сапраўдныя клопаты пра дабрабыт кожнага інваліда і пенсіянера яшчэ не хутка стануць першачарговай задачай беларускага ўрада. Бо на такую мізэрную пенсію, як у Аляксея Аляксеевіча Юркевіча, вельмі цяжка пражыць. Дый хіба гэта пенсія для інваліда вайны І групы — каля двух мільёнаў рублёў? Крыўдна, балюча, што рызыкаваў сваім жыццём, праліваў кроў, стаў бездапаможным інвалідам і ўрэшце-рэшт аказаўся амаль забытым і непатрэбным для дзяржавы.

Каб высветліць, як жа ў раёне адносяцца да такіх інвалідаў, як А. А. Юркевіч, я звярнуўся да намесніка начальніка аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва Івацэвіцкага райвыканкама Н. В. Саявец.

— Такіх бездапаможных інвалідаў, як А. А. Юркевіч, у нас у раёне засталося крыху больш за два дзесяткі, — гаворыць Надзея Васільеўна, — І амаль усе яны звярталіся да нас з адным пытаннем: чаму такая малая пенсія, за што мы змагаліся і згубілі сваё здароўе? Але мы, работнікі аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва, не вінаваты ні ў чым. Такія прыняты законы...

Я разумею работнікаў аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва. Яны, калі б і хацелі дапамагчы інвалідам, то не змогуць гэта зрабіць. Усё абмежавана рамкамі законаў. Гэтыя законы не абараняюць бездапаможных інвалідаў, а, наадварот, робяць іх жабракамі.

Напрыклад, былы ўдзельнік вайны, што вярнуўся дамоў здаровым і які яшчэ працаваў і выйшаў на пенсію па ўзросце, атрымлівае ў месяц у два разы больш грошай, чым той, хто на полі ратным згубіў усё, стаўшы нямоглым і бездапаможным. Вось такая справядлівасць па-беларуску. І дарэмна Аляксей Аляксеевіч Юркевіч шукаў праўды і дапамогі, звяртаючыся ў розныя інстанцыі аж да кіраўніка дзяржавы. Ніхто не хоча мяняць ці карэкціраваць тыя законы, дакладней кажучы клапаціцца пра старых людзей, былых абаронцаў, якія дажываюць свой век у жабрацтве і, вядома, зараз у вялікай крыўдзе на тую ўладу, якая так зняважыла старых салдатаў Айчыны, амаль растаптала іх баявую маладосць.

Атрымліваюць інваліды адпіскі ад чыноўнікаў розных рангаў і безнадзейна разводзяць рукамі: "Не заслужылі". Застаецца толькі ўспамінаць светлыя хвіліны са свайго жыцця. Па праўдзе сказаць, нашых ветэранаў вайны ўлады ўспамінаюць адзін раз у год. Напрыклад, Аляксей Аляксеевіч Юркевіч напярэдадні Дня незалежнасці атрымаў віншаванне ад самога Прэзідэнта нашай рэспублікі і 500 тысяч рублёў. Прыемны момант. Але ж інваліду патрэбны пастаянныя ўвага і клопаты на працягу ўсяго года.

Як ні дзіўна, а за паўсядзённымі клопатамі і цяжкасцямі, як прызнаўся Юркевіч, падобныя віншаванні і падачкі чамусьці хутка забываюцца. Часцей успамінаюцца найбольш светлыя і ўражлівыя падзеі, якія прыносяць ветэрану асалоду і задавальненне, як тая кароткая сустрэча Аляксея Юркевіча з маршалам Г. К. Жукавым. Яе ўжо не выкрасліць ні з памяці, ні з сэрца, ні наогул з самога жыцця. І сімвалічна тое, што побач з двума ордэнамі Айчыннай вайны і медалём "За адвагу" на грудзях Аляксея Аляксеевіча займае пачэснае месца медаль Жукава.

У пачатку лістапада А. А. Юркевічу споўніцца 83. Гэта ўжо паважаны ўзрост. Тупае Аляксей Аляксеевіч у хаце і ля хаты. Але больш сядзіць. Вельмі рады, калі да яго заходзяць суседзі, іншыя вяскоўцы. На сваё жыццё ніколі не скардзіцца. Любіць пагаварыць, як і большасць старых. Не адмовіцца ад чаркі добрага віна ў кампаніі аднадумцаў і ветэранаў вайны.

Такі ён, просты вясковы чалавек, былы кулямётчык, а цяпер інвалід вайны І групы, жыхар вёскі Вулька-Целяханская Аляксей Аляксеевіч Юркевіч. І ў далёкія ваенныя гады, і сёння, напрыканцы другога тысячагоддзя. Хай доўга яшчэ жыве, цешыцца сваімі ўнукамі і праўнукамі, а, можа, і прапраўнукамі. Дай, Бог!

***С. КАЖАДУБ.***

*в. Вулька-Целяханская. Івацэвіцкі раён.*

